ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 17 (2648) • Пятніца, 27 красавіка 1973 года • Цана 8 кап.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ І МАЯ—ДЗЕНЬ МІЖНАРОДНАЙ САЛІДАРНАСЦІ ПРАЦОЎНЫХ У БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ ІМПЕРЫЯЛІЗМУ, ЗА МІР, ДЭМАКРАТЫЮ І САЦЫЯЛІЗМ!**

*(З Заклікаў ЦК КПСС.)*




# СА СВЯТАМ, ТАВАРЫШЫ!









# ІШЛО СВЯТА ПРАЦЫ...

Малюнкі заслужанага дзеяча мастацтваў БССР С. РАМАНАВА.



# «Я — САЛДАТ СВАЙГО ЧАСУ»

НЕ ДЛЯ АДНАГО пакалення людзей творы Аркадзя Куляшова сталі духоўным набыткам. З чытанак і хрэстаматый упершыню прыходзіць паэт у нашу свядомасць, з'яўляючыся пасля неразлучным спадарожнікам у жыцці.

«Я — салдат свайго часу», — сказаў у адным з вершаў Аркадзь Куляшоў. Так, народны паэт — салдат нашага велічнага часу. А ён, гэты час, — і ўзмужненне Краіны Саветаў у 30-я гады, і грозныя дні Вялікай Айчыннай, і аднаўленне разбуранай ворагам гаспадаркі, небывалы росквіт зямлі і трывожная пільнасць нашых дзён.

Пра актуальнасць творчасці народнага паэта, пра яе непарыўную сувязь з жыццём Радзімы ішла задушэўная размова на аўтарскім вечары Аркадзя Куляшова, які адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

...Людзі розных узростаў і прафесійнай прыналежнасці сабраліся ў зале. Усіх яднае любоў да паэтычнага слова, да творчасці выдатнага песняра сучаснасці.

На сцэне артыст М. Казінін. Ён чытае верш «Размова з нашчадкам». Гэты твор — прадмова да ўсёй праграмы вечара.

Дыктар Беларускага тэлебачання З. Бандарэнка абвяшчае сустрэчу пачатай і называе імёны пісьменнікаў з братніх рэспублік, што прыехалі на ўрачыстасць. Слухачы дружнымі воплескамі вітаюць гасцей.

Слова даецца Пімену Панчанку.

— Для майго пакалення, пакалення людзей 30-х гадоў, — гаворыць ён, — Аркадзь Куляшоў з'явіўся самым любімым паэтам. У духоўны скарб беларускага народа ўвайшлі многія і многія яго творы. Паэзія Куляшова заўсёды была ў самым лепшым сэнсе актуальнай... Беларускі народ павінен быў мець такога выдатнага паэта і цяпер можа ганарыцца ім.

Артыст А. Мазлоўскі, заслужаныя артысты БССР Г. Гарбук і П. Дубашынскі чытаюць вершы Аркадзя Куляшова «Мая Бесядзь», «Млын», «Ранак». Зноў і зноў задуменная публіка трапляе ў свет прыгожага і чароўнага.

Да мікрафона падыходзіць Ігар Лучанок. Аўтар многіх песень, што палюбіліся не толькі беларусам, ён не абмінае ў сваёй творчасці і паэзію Аркадзя Куляшова. Так, у мінулым годзе ім напісана песня «Алеся» на словы паэта, якую ахвотна ўзялі на сваё ўзбраенне «Песняры». Удзельнікам вечара кампазітар прапануе свой новы музычны твор на тэкст гаспадара ўрачыстасці «Спакойнага шчасця не зычу нікому» ў выкананні В. Кірычэнкі.

Слова бярэ вядомы паэт Міхаіл Луконін.

— Мы прыехалі ў госці да тваёй паэзіі... Мы ганарымся, дарагі калега, што ты сучасны баявы паэт і што мы — твае таварышы, — звяртаецца ён да Аркадзя Куляшова. — Ты паэт шчаслівы. Паглядзі, колькі ў цябе чытачоў!

Зноў чуюцца словы народнага паэта з вуснаў артыстаў А. Вавілава, В. Турмовіча, Р. Пятрэнкі. Да слёз хвалюе знаёмая з дзяцінства «Балада аб чатырох заложніках» у чытанні заслужанай артысткі БССР М. Захарэвіч.

— У свой кожны прыезд у Мінск,—гаворыць народны паэт Калмыкіі Давід Кугульцінаў, — я захапляюся яго незвычайнай прыгажосцю. Але ведаю, што ўсё гэта — плён самаадданай працы мінчан. Калі я гляджу на вечны агонь Хатыні, мне ў ім мроіцца сцяг, які асацыіруецца са «Сцягам брыгады». Я дзякую музе Куляшова. Яна — у радасці народнай, у перамогах рэспублікі.

Ад братняй Украіны паэта вітае Мікола Нагнібяда:

— Я прывёз не толькі сваё сэрца, перапоўненае любоўю і адданасцю, але і глыбокую павагу ўсяго ўкраінскага народа. Тыя песні Куляшова, якія апавядаюць пра лёс беларусаў, не раз перакладаліся на нашу мову. Мы любім Аркадзя Куляшова як вялікую зорку на беларускім небе. Любім і за тое, што ён пераклаў на беларускую мову Пушкіна, Лермантава, Шаўчэнку. І зусім нядаўна пераклаў «Энеіду» Катлярэўскага. За гэта ён атрымаў званне заслужанага работніка культуры Украінскай ССР.

У канцы прамовы М. Нагнібяда чытае верш А. Куляшова ў сваім перакладзе на ўкраінскую мову.

Сапраўдная паэзія ніколі не з'яўляецца вузканацыянальнай з'явай. Яна ўваходзіць у агульную скарбніцу духоўнай культуры.

Гэтай думкай было прасякнута выступленне народнага паэта Кабардзіна-Балкарыі Кайсына Куліева.

— Адно тое, што з табою побач жыве вялікі мастак, — зазначае госць, — радуе і надае сілы. І я, і Давід Кугульцінаў, і Расул Гамзатаў вучыліся ў Куляшова. Ён усёй сваёй існасцю служыць братэрству культур. У паэзіі Куляшова ёсць усё, што неабходна для вялікага мастака, для вялікай паэзіі — і хлеб, і ружа, і дзіцячая ўсмешка, і прыгажосць жаночага твару... Пакуль у народа ёсць такія паэты, будзе вялікім і сам народ!

Пад воплескі прысутных прамоўца зачытвае сардэчную тэлеграму Расула Гамзатава, які па стану здароўя не змог прыехаць на сустрэчу.

...Паўтары гадзіны працягваўся гэты цікавы вечар. Апрача памянёных прамоўцаў, усхвалявана выступіў вядомы перакладчык беларускай паэзіі на рускую мову Якаў Хялемскі. Пасля паэтычнага паслання Аркадзю Куляшову, Петрусю Броўку і Максіму Танку ён прачытаў верш гаспадара сустрэчы на рускай мове.

Урывак з паэмы «Далёка да акіяна» прапанавала прысутным народная артыстка БССР З. Бравrouteрская.

Заслужаная артыстка рэспублікі Л. Давідовіч, артыст В. Анісенка прачыталі вершы паэта. Песню А. Багатырова «Ростань» выканаў В. Кучынскі.

З песняй Р. Пукста «Творчы наступ» на вечары выступіла Дзяржаўная харавая капэла Беларускай ССР. Вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» хораша выканаў куляшоўскія «Баладу аб чатырох заложніках» (музыка У. Мулявіна) і «Алесю».

З асаблівай увагай слухалі ўдзельнікі вечара самога аўтара. Народны паэт Беларусі прачытаў у сваім перакладзе вершы гасцей.

І. КУРБЕКА.



На здымку — А. Куляшоў, М. Луконін, Д. Кугульцінаў.

# ЯКУЮ ВЯСНУ Я ЛЮБЛЮ

Аляксей
ЗАРЫЦКІ



## ПЕРАД ВЕЧНЫМ АГНЁМ

*Мне зайсёды падказвае сэрца — спыніся,— калі*
*Я выходжу на плошчу імя Перамогі,*
*Дзе ўздымаецца стройна і строга*
*Велікан-абеліск,*
*І трапеча на ветры нязгасны агонь.*
*Колькі-колькі сыходзіцца тут пуцявін чалавечых!*

*І ўдава, ў якой сівізна*
*Выбіваецца густа з-пад хусткі,*
*І калішні салдат з медалямі над сэрцам,*
*І задуманы хлопец, трымаючы кнігу ў руцэ,*
*У маўчанні падоўгу стаяць перад вечным агнём.*

*Толькі неяк мяне асабліва хвалюе, калі*
*Маладыя прыходзяць сюды, заручыўшы*
*Долю з доляй пярсцёнкамі — золатам шчырай любові.*
*Вунь, нібыта на варце пачэснай, яны*
*У глыбокай задуме пасталі абапал агню.*
*Пралятаюць машыны, праносяцца міма.*
*А над плошчай высока-высока хмурынка бялее,*
*Як сукенка святочная на маладой.*
*І калышацца вечны агонь,*
*На гранітныя пліты кідаючы водсвет.*
*Незгасальны агонь—незгасальная памяць*
*Нашай маці-зямлі аб героях сынах.*
*Нездарма ён. здаецца, з глыбіняў зямных*
*Вырываецца ўладна...*

*Позна ўночы, калі прыкархне,*
*Прытаміўшыся, горад, на плошчы нікога.*
*Толькі зрэдку прамчыцца машына, ці крок*
*Прагучыць пешахода. А вечны агонь*
*У прыцiхлым паўзмроку палае ярчэй і ярчэй.*
*Незгасальны агонь — незгасальная памяць*
*Нашых сэрцаў і душ.*

## У АГНЯВЫЯ ГАДЫ

*Бацькі нашы вялікі Саюз будаваць пачыналі,*
*Трымаючы кельму адною рукой,*
*Другою—вінтоўку:*
*Сталёвым трысцём, асакою сталёвай*
*Варожых штыкоў зараслі ўзбярэжжы*
*Азёр прыгранічных і рэк.*
*На змену бацькам пасівелым і мы*
*Прыйшлі і з вінтоўкай і кельмай,*
*Прыйшлі к рыштаванням высокім*
*Нябачаных светам яшчэ пяцігодак.*
*У бітвах і працы гады праляталі*
*Уведаць і нам усяго давялося:*
*І шчасце зазнаць перамог і звяршэнняў высокіх,*
*І ўзнёсласць аддана́й любові,*
*І смутак па лепшых сябрах,*
*Якія загінулі смерцю харобрых.*
*Ды ўжо на зыходзе наш час, і сыны*
*На змену ідуць. Ім і кельма і зброя,*
*Нібы вартавыя, змяняюцца ў нас пакаленні.*
*Гады агнявыя,*
*Трывожная доля,*
*Трывожнае шчасце.*
*Патомкі!*
*Жыццё будаваць вам на мірнай планеце,*
*Трывогі ў вас іншыя будуць,*
*І шчасце ў вас іншае будзе.*
*Ды знойдзеце, пэўна, часінку і вы, каб павольна*
*Радкі прачытаць, хай шурпатыя трошкі,*
*Пра кельму, вінтоўку й трывожнае шчасце*
*У тыя былыя гады, агнявыя гады,*
*Калі пакаленні змяняліся, як вартавыя.*

## НЕСМЯРОТНЫЯ ЗЕМЛЯКІ

*Двух вялікіх Міцкевічаў—*
*Двух песняроў,*
*Нарадзіла мая Беларусь.*
*Па суседству,*
*Пад гоман прынёманскіх ніў і бароў*
*Узрасталі Міцкевіч Адам*
*І Міцкевіч Кастусь.*

*Як суседзі й цяпер,*
*Як дубы векавыя, яны,*
*Што карэннем спляліся*
*І поруч вяршыні ўзнялі—*
*Два Міцкевічы,*
*Два несмяротных сыны*
*Нашай роднай зямлі.*

●

*Першацвет асыпаецца з голля*
*Дзікай яблынькі ў нетры лясной...*
*Як сустрэўся з табою, любой, я*
*Упершыню.*
*Той далёкай вясной?*

*Ці не так нечакана, як з гэтай*
*Юнай яблынькай,—дзівам лясным,—*
*Што бялюткім акрылася цветам*
*І на ветры шуміць веснавым.*

●

*Зялёнаю хваляй абмыла зямлю.*
*Раскошна цвіце над парканамі бэз.*
*Пытаеш:*
*— Якую вясну я люблю,*
*З бэзам ці без?*

*Ну з бэзам, вядома,*
*Яшчэ й з салаўём,*
*Праслаўленым майстрам канцэртаў лясных,*
*З усмешкай тваёй*
*І свавольным агнём*
*Вачэй,*
*І лагодных і дзёрзкіх,*
*Тваіх.*

## НАПАМІН

*Заслалі як трэба падружкі і сваццi сталы,*
*Расставілі чаркі і блюды з вясельнай пачосткай*
*І ўжо на абрусы, шануючы звычай стары,*
*Кладуць і кладуць не спяшаючы кветку за кветкай.*
*Рамонак кладуць на чысцюткі абрус, каб павек*
*Не здрадзілі сціпласць і ветлівасць мужу і жонцы.*
*Кладуць васілёк, каб і вернасць сваю праз жыццё*
*Яны шанавалі, і пырскі высокага неба*
*Сінелі, не блякнучы, ў іхніх шчаслівых вачах.*
*А кветкі калючай шыпшыны кладуць, каб напомніць.—*
*Любоў і сама, як шыпшына: адплаціць яна*
*За дотык бяздушны і грубы, адплаціць зайсёды.*

●

*Зайздросных зайсёды хвашчу і чыхвошчу*
*І зайздрасць з душы выжываю і з дому.*
*Я толькі вясне й маладосці зайздрошчу,*
*А болей нікому.*

*Адна і аснова на гэта й высновa:*
*Усё пачынаць ім падсілу нанова.*



П. Лебедзеў.

Ля брыгаднай канторы ўжо чакалі, сядзелі на доўгай лаўцы пад бэзам, стаялі ля плота. Як толькі з'явіўся брыгадзір, усе ажывіліся.

— Добры дзень, наш комплексны камандзір, — спецыяльна пазней за ўсіх, каб яе пачулі, жартаўліва павіталася Паўліна.

Аляксандр Раманавіч, не спяшаючыся, дастаў сваю пакамечаную запісную кніжку, перагарнуў:

— Сёння на вывазцы гною прыбавяцца яшчэ дзве машыны, старшыня абяцаў з другой брыгады перакінуць. Значыць, туды пойдуць...

Атрымаўшы заданне, па адным і групамі разыходзіліся людзі. Ішлі на поле, на ферму, у сад...

— Паслухай, Раманавіч, — падышла да яго заатэхнік Юзэфа Трон,— вось да цялятніц зазірнула. Нядобра нешта ў іх. Быццам бы і цяляты ў групах аднолькавыя, і цялятніцы ўсе стараюцца, а прывага розная. У групах Пунько і Мігар, відаць, зялёнай падкормкі не хапае...

— Давай, Іванаўна, падумаем, — прысеў Вайцахоўскі. — Вядома ж. Для адной групы лубін машынай возім, для другой — коньмі. А адлегласць амаль што аднолькавая. Паспрабуй, навазіся...

Зноў на хвілінку, прыкідваючы нешта ў галаве, потым адразу ажывіўся:

— Зробім так — адвядзём участак бліжэй да ўрочышча Вуглы. Гэта ж побач. Адтуль і коньмі можна ўдосталь навазіць.

Неўзабаве, напрасткі, вузкай сцяжынкай міма дома культуры, крочыў дамоў. Не заходзячы ў кватэру, расчыніў дзверы пуні, вывеў халодны «Іж».

Густой зелянінай сустрэла Аляксандра Раманавіча ваколіца. Праскочыў масткі, мільганулі прыдарожныя кусты. Скаціўшы матацыкл у кювет, пакрочыў спачатку ўздоўж роўнага, як шчотка, лубіну, потым выйшаў на другі край. Да самай броўкі поля. «Добры ўчастак пад азіміну, роўны, не нясчаны. Тут і будзем сеяць. У будучым годзе не дваццаць тры, а дваццаць сем, а то і трыццаць цэнтнераў пшаніцы атрымаць бы...»

Ужо ля дарогі яшчэ раз прыпыніўся, акінуў позіркам залатое пад сонцам іржышча, і там, удалечыні, чорную палоску ўзаранага зябліва. «Зямля-карміцелька. Вось так і служым усё жыццё адзін аднаму. Мы табе свае клопаты, а ты нам — чым багатая. І ў службе гэтай вечнай, нялёгкае жыццё наша і радасць...»

Зноў бегла пад колы дарога. Зазірнуў у сад, узяў з поўнага кошыка прахалодныя, пругкі яблык. Падумаў: «Трэба пацікавіцца, як ідзе продаж садавіны». Потым завярнуў на ток. Зачэрпнуў жменю зярнят: здаецца, чыстыя. Цікава, што скажа лабараторыя? «Яшчэ б адну машыну выпрасіць у старшыні. Але і ў іншых брыгадах не лішне», — падумаў, аб'язджаючы грузавік з кампостамі.



А. Вайцахоўскі.

...Ля канторы стомлена сышоў з матацыкла, паглядзеў на гадзіннік. Ужо дзевятая. Час і снедаць.

**С. БАРАДОЎСКІ,**
**А. ШАБАЛІН.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# Мінчане сустракаюцца з Гояй...

Штаб-кватэра кампаніі «Оксідэнтл петролеўм компані», прэзідэнтам якой з'яўляецца доктар Арман Хамер, размешчана ў Лос-Анджэлесе. Але гэтымі днямі імя доктара Хамера можна пачуць у Беларускім дзяржаўным мастацкім музеі. Справа ў тым, што ў Мінск прыбыла мастацкая выстаўка твораў з прыватнай калекцыі прэзідэнта «Оксідэнтл петролеўм».

Калі адзін амерыканскі журналіст запытаў Армана Хамера, чаму той калекцыяніруе творы мастацтва, збіральнік адказаў: «Таму, што гэта цікава. Гэта як паляванне. Я адчуваю асаблівую радасць, калі мне ўдаецца адшукаць рэдкія карціны альбо пачуць звязаную з імі гісторыю... Калекцыяніраваць творы мастацтва гэта нешта большае, чым простае збіральніцтва. Тут вы сутыкаецеся з нечым неўміручым, з тым, што перажыло стагоддзі, што вы захоўваеце для нашчадкаў».

У гэтых словах Армана Хамера адлюстравана сутнасць яго дзейнасці як збіральніка і аматара выяўленчага мастацтва.

Мінчане змогуць пазнаёміцца на выстаўцы з творамі Альбрэхта Дзюрэра, Леанарда да Вінчы, Рафаэля Санці, Рэмбранта ван Рэйна, Франсіска Гоі, Поля Гагэна, Поля Сезана, Вінсэнта Ван-Гога, Агюста Рэнуара, Пабло Пікасо і іншымі.

Мінск не першы горад у Савецкім Саюзе, дзе пабывала выстаўка. Яе бачылі ў Ленінградзе, Маскве, Кіеве. А пасля Мінска, відаць, адправіцца яна ў Рыгу і Адэсу... Трэба сказаць, што ўсюды выстаўка карысталася вялікай цікавасцю ў аматараў жывапісу.

Экспазіцыю адкрываюць работы старых майстроў. Асаблівую цікавасць тут уяўляюць некалькі малюнкаў Леанарда да Вінчы, эскізы да фрэсак Рафаэля. Малюнак «Першацвет» Дзюрэра — яскравы прыклад мастацтва нямецкага Адраджэння. Гэты малюнак звяртае на сябе ўвагу кожнага — якая пільнасць да самых звычайных праяў прыроды і ў той жа час колькі драматызму ў гэтым будзённым матыве! Мінчане змогуць пазнаёміцца з дзвюма карцінамі Рубенса. Адна з іх — «Збор манны ў пустыні» была выкарыстана мастаком для стварэння габелена з серыі «Таінствы Еўхарыстыі», якую Рубенс выконваў па заказе Ізабелы Іспанскай.

На выстаўцы шмат цікавых твораў французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў, постімпрэсіяністаў. Сярод іх — вядомыя нам па рэпрадукцыях «Бульвар Манмартр у час карнавала» Пісара, «Дзяўчыны, якія чытаюць» Рэнуара, «Дзень добры, пан Гагэн» Поля Гагэна, «Раніца» Каро, «Бальніца ў Сен-Рэмі», «Сейбіт» Ван-Гога, малюнак «Танцы ў Мулен-дэ-ля-Гамет» Тулуз-Латрэка, «Партрэт дзяўчынкі» Каро.

Пазнаёміцца наведвальнікі выстаўкі і з работамі амерыканскіх мастакоў. Сярод калекцыі твораў амерыканскага мастацтва «Партрэт Джорджа Вашынгтона» Д. Сцюарта, «На пляжы» М. Прэндэргаста, «Партрэт кардынала Марцінэлі» Т. Ікінса, дзве карціны Мэры Кесет, амерыканкі, якая амаль увесь час жыла і працавала ў Парыжы.

Ёсць на выстаўцы работы мастакоў, з якімі савецкі глядач пазнаёміцца ўпершыню.

Доктар Хамер падараваў адну карціну са сваёй калекцыі Эрмітажу. Гэта партрэт актрысы Антоні Сарантэ работы Франсіска Гоі. На партрэце — жанчына-прыгажуня, багатай душы чалавек. Вялікі іспанскі жывапісец напісаў яе ў свабоднай, натуральнай паставе, на срабрыста-шэрым, непаўторна гоеўскім фоне, які надае ўсяму палатну незвычайную «меладычнасць», задуменнасць... І яшчэ адна работа Гоі — эскіз да габелена «Эль Пелеле». Гэтая работа маладога мастака праслкнута весялосцю, народным гумарам. Яна і напісана ў празрыста-сонечным каларыце, які быццам увабраў яркае святло Іспаніі. Потым, у цяжкія гады, сталы Гоя перапрацаваў гэты сюжэт у адзін з афортаў бессмяротнай серыі «Капрычас», у якім ён набыў зусім іншае, вельмі драматычнае гучанне.

Вядомы калекцыянер сам надабраў творы для выстаўкі і зрабіў гэта выдатна, з сапраўдным разуменнем мастацтва, з тонкім густам.

Доктар Арман Хамер быў першым амерыканскім бізнесменам, які заключыў дзелавы дагавор з маладой Рэспублікай Саветаў. Зараз, пра гэта шырока пісалі нашы газеты, ён таксама адным з першых амерыканскіх дзелавых людзей заключыў дамоўленасць з нашай краінай на будаўніцтва камбінатаў па вытворчасці мінеральных угнаенняў.

Накіроўваючы ў нашу краіну гэтую выстаўку, доктар Хамер прапанаваў узяць на сябе арганізацыю ў Злучаных Штатах вялікай выстаўкі скарбаў мастацкіх музеяў Савецкага Саюза... Такая выстаўка неўзабаве павінна адкрыцца ў Амерыцы.





Ван-ГОГ. Сейбіт.
ГОЯ. Партрэт актрысы.

## ІШЛО СВЯТА ПРАЦЫ...







Малюнкі С. ВОЛКАВА.

---

Ён намагаўся дасягнуць унікальнасці кожнага вырабу, яго рукатворнасці. У. Мурахвер шырока выкарыстоўваў гутную тэхніку, якая дазваляла найбольш поўна перадаць пластычнасць шкла, плаўнасць і цякучасць яго ліній, нечаканыя каляровыя спалучэнні, калі шкло ззяе, блішчыць, пераліваецца.

Работы Уладзіміра Сямёнавіча, створаныя на пачатку шасцідзесятых гадоў, не страцілі сваёй навізны і арыгінальнасці. Многія яго знаходкі і сёння выкарыстоўваюцца беларускімі мастакамі шкла.

А сам У. Мурахвер зацікавіўся магчымасцямі шкла, як матэрыялу манументальнага. Ён распачаў шырокія эксперыменты па стварэнні буйных манументальных пласцін са шкла. Гэтыя пошукі ішлі нялёгка, бо шкло вельмі «капрызны» матэрыял, яно патрабуе гранічнай адпрацаванасці тэхналагічнага працэсу, дакладнасці тэмпературнага рэжыму.

Дэкаратыўныя пласты каляровага накладнога шкла «Лаў» і «Выдзімальшчык», якія ён стварыў у 1967 годзе з'явіліся вынікам гэтых эксперыментаў.

Гэтыя творы былі натуральным працягам яго папярэдніх пошукаў, сцвярджэннем магчымасці выкарыстоўваць шкло, як своеасаблівы, вельмі «багаты» матэрыял для ўпрыгожвання сучаснага інтэр'еру. Дэкаратыўныя пласціны У. Мурахвера, арміраваныя металам, у хуткім часе з'явіліся і ў экстэр'еры будынкаў — імі быў упрыгожаны фасад дома культуры ў саўгасе «Прагрэс» Гродзенскай вобласці, у вядомых сёння ўсёй краіне Верцялішках.

Шкло... Старажытны і вечна новы матэрыял. Колькі цудаў, яшчэ не раскрытых сакрэтаў тоіць яно ў сабе! Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер настойліва шукае ўсё новыя і новыя магчымасці яго выкарыстання, тыя «схаваныя» якасці, якія дазваляюць больш поўна раскрыць яго прыгажосць і прывабнасць.

Зараз ён займаецца стварэннем інтэр'ера палаца культуры шклозавода «Нёман». Мастак уяўляе сабе яго як своеасаблівы гімн шклу, хоча ў гэтай рабоце паказаць усе «магчымасці» шкла. Ужо зроблена дэкаратыўная сценка на пляцоўцы другога паверха. Яна «сабрана» з рэльефных каляровых і бясколерных манументальных блокаў. Вялікія плоскасці аконных праёмаў у фае тэатральнай залы ўпрыгожаны вітражнымі кампазіцыямі. У гэтай рабоце Уладзімір Мурахвер прадстае перад намі ў новай якасці як мастак манументальнага жанру, як «кампазітар» інтэр'ера. Але ён не «забываецца» і на вытворчасць. Зараз перад ім стаіць вельмі складаная задача: стварыць такую тэхналогію апрацоўкі шкла, каб нават тыя рэчы, якія сыдуць з канвеера, неслі на сабе рысы унікальнасці, непаўторнасці.

Рэспубліканскі мастацкі савет Міністэрства будаўнічых матэрыялаў БССР ужо зацвердзіў арыгінальныя па форме і своеасаблівыя па дэкоры масавыя вырабы — кубкі, графіны, глякі, вазы для кветак і фруктаў, салатніцы, якія, несумненна, прыйдуцца да спадобы пакупнікам.

Беларускае мастацкае шкло. Вырабамі беларускіх мастакоў шкла захапляліся ў Амерыцы і Японіі, Англіі і Аўстраліі, Францыі і Канадзе. І немалую ролю ў гэтым адыгралі мастакі шклозавода «Нёман», дзе плённа працуе і Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер.

М. ЯНІЦКАЯ.

